© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 50 (1189) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 10 СНЕЖНЯ 1978 г. ЦАНА 60 гр.



*Маладое пакаленне нашчадкаў колішніх асочнікаў мала што і ведае пра каралеўскія паляванні ў Малявіцкай пушчы.*

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## Богушы

Сёння вакол Богушаў, што густа забудаванай, у вярсту даўжынёй, вёскай-вуліцоўкай пераскокваюць з пагорка на пагорак у якіх трох-чатырох кіламетрах на паўночны захад ад Саколкі, нават і на лякарства праўдзівага лесу не знойдзеш, а калісьці... Тое „калісьці“ было каля пяцісот год таму і тады іменна тут яшчэ шумела векавая пушча. Была яна ўласнасцю „гаспадарскай“, гэта значыць належала да вялікіх князёў літоўскіх. Праўда, „гаспадары“ даволі шчодрай рукою адрэзвалі ды адрывалі ад яе ладныя кавалкі, каб абдароўваць сваіх прыбліжаных вяльможаў або аддаваць пад заклад за розныя пазыкі. І так над аграмадным лясным масівам, што праcціраўся ад вярхоўяў ракі Нарвы аж да сярэдняга цячэння Нёмана, павісла пагроза быць цалкам разграбастаным Радзівіламі, Гаштолтамі, Хадкевічамі, Масальскімі, Валовічамі і іншымі магнатамі. Урэшце, рамантычны і ўлюбчывы, як усе Ягелоны, кароль польскі і вялікі князь літоўскі Зыгмунт Стары даравальнай граматай ад 21 лютага 1524 года ахвяроўвае сваёй каханай жоначцы каралеве Боне „рэштку“ гэтага масіва, якая цягнулася шырокім пасам ад ракі Супраслі аж да Коўна. І новая каранаваная „гаспадыня“ ўзялася за справу як належыцца, па-гаспадарску. Яна не толькі болей не ўступіла нікому нават і пядзі пушчы, але выкупіла з-пад закладаў значныя яе абшары, адабрала таксама і тое, што было прысвоена некаторымі магнатамі рознымі хітрыкамі, сама ахвотна прымала ад усіх нават самыя маленькія лясныя ці зямельныя ахвяраванні. У „гаспадарскіх“ маёмасцях пачала ўводзіць самыя новыя як на тыя часы гаспадарчыя рэформы, дзякуючы якім у пусты дагэтуль каралеўскі скарб паліліся аграмадныя даходы.

„Ну, добра; — заўважыць чытач, — але якое дачыненне да ўсяго гэтага мае вёска Богушы?“ — Самае што ні ёсць непасрэднае! Упаўнаважаныя каралевай Бонай спецыяльныя землямеры ўсе сялібы баяраў, асочнікаў і звычайных сялян, што былі рассыпаны бяспланава па ўсёй пушчы, загадалі сцягнуць на выдзеленыя ім зямельныя ўжыткі на яе ўскраіне ў дакладна запланаваныя вёскі-вуліцоўкі. І такім чынам побач з сотнямі іншых, паўстала і вёска Богушы. Пачаткова насялялі яе асочнікі, якія за карыстанне зямлёю абавязаны былі сцерагчы тадышнюю Малявіцкую пушчу і служыць „гаспадару“ вялікаму князю літоўскаму і яго княгіні ў часе іхніх тут паляванняў. А каралеўскай сямейцы прыйшліся надта да спадобы тутэйшыя маляўнічыя, здаровыя і вельмі багатыя розным зверам ды птушкай лясы, і яна часценька гасцявала ў двары Сухалда. Побач з ім знаходзілася вёска Саколдка, што і дала потым пачатак сённяшняй Саколцы. І даводзілася тады асочнікам з Богушаў дбаць пра тое, каб пад гакаўніцы каранаваных асоб натоўпам ахвотна беглі туры, зубры, ласі, дзікі, лісы ды іншы звер. Што сярод іх былі людзі з прозвішчам Богуш, не можа быць і сумнення, бо ад яго займела сваю назву вёска. Але да нашых дзён гэтае прозвішча тут не захавалася, не было яго і сто гадоў таму назад сярод тутэйшых сялян: **Андрушкевічаў, Бандарыкаў, Баравікоў, Белавусаў, Буслаў, Буцькоў, Габіневічаў, Гарбачэўскіх, Гаймовічаў, Грасевічаў, Главацкіх, Дашутаў, Зарэцкіх, Зіновічаў, Зубелічаў, Казакоў, Капчэўскіх, Комлаў, Кокшаў, Кундаў, Кучкаў, Мацкевічаў, Мільтыхаў, Нагацкіх, Рапухаў, Рыгаровічаў, Салаўёў, Санькоў, Толькіх, Трахімаў, Хлусаў, Чапуроў, Шалеўскіх, Ягелаў, Яцкевічаў** — што тады лічыліся спадчыннымі тут сялянамі. Аднак нейкі адгалосак пра колішняе асочніцтва захаваўся ў апавяданні 85-гадовага **Эдуарда Комлы,** пра тое, што Багушчы спакон веку былі вольнымі, на паншчыну не хадзілі. Мелі на гэта спецыяльную грамату каралеўскую. Зайздросцілі ім усе навакольныя сёлы. Калі ж у Богушах старшынёю стаў нейкі Бандарык, што ад кварты з гарэлкай ніякай сілаю не адарвеш, суседняя вёска Панятовічы кінулася ў хітрыкі. Заманіла Бандарыка ў карчму і паіла да той пары, пакуль той аддаў ёй каралеўскую грамату. І ад таго часу давялося Богушам хадзіць на паншчыну. Такім надта ж песімістычным акордам закончылася ў Богушах слаўная іх асочніцкая традыцыя.

Пра паўстанне 1863-4 гадоў захавалася вестка, што завітаў у Богушы нейкі паўстанцкі атрад, у які былі мабілізаваны восем тутэйшых юнакоў, а многім сялянам дадзен загад везці паўстанцкі абоз у напрамку Кнышына. Неўзабаве недзе ў Кнышынскім лесе ўсе яны былі акружаны царскім войскам, большасць з іх загінула ад куляў і шабляў або павісла на дрэвах, толькі некаторым удалося ўцячы. Пасля разгрому паўстання ўсе навакольныя панскія маёнткі за

Працяг на стар. 4

## Усё сваімі рукамі

Не ласкаў яго лёс. У пяць гадоў астаўся сіратою, толькі з дзедам і маці.

Ад дванаццаці гадоў трэба было брацца за гаспадарку. Памёр дзед. Зямлю перапісаў на яго, на Івана. І так дванаццацігадовы хлапчук, які ў сённяшні час спакойна хадзіў бы ў школу і бесклапотна праводзіў летнія канікулы, мусіў стаць да бараны, плуга, мусіў выходзіць сеяць, жаць. У дванаццаць год стаў дарослым чалавекам. Потым маці выйшла замуж, і Іван астаўся адзін. Працы хапала, як завязаць. Цяжка аднаму. І ў дзевятнаццаць гадоў ажаніўся. Жонка мясцовая, макранская, Аняй завуць.

— Памятаю, як прыйшла сюды, бо мы жывем на мужавым месцы, — успамінае жонка, — то ўсё было такое старое, валілася. Хлеў калом быў падпёрты. Ваду лілі, каб больш гною было.

Сёння ўсё тут перамянілася. Няма пахіленых ад старасці будынкаў. Зараз Івану Валасюку трыццаць дзевяць гадоў. Гаспадарыць удваіх з жонкай. Адна дачка ўжо замужам, сярэдняя, Анеля, вучыцца ў мясной прафесіянальнай школе ў Беластоку, а меншай усяго толькі пяць год.

Гаспадарка Валасюкоў разраслася. Сваёй зямлі маюць дванаццаць гектараў, тры гектары — гэта лес.

— Вось усё гэта, што бачыце, — паказвае рукой, стоячы на панадворку, — апрача хаты — новае. І абора, і хлеў, і гараж. Адзін толькі дом застаўся. Стадолу пабудавалі гадоў сем таму назад. Праз год паявіўся кароўнік.

— Ну, колькі так прыблізна гэтакі кароўнік мог вам каштаваць? — пытаю з чыстай цікавасці.

— А хто яго там ведае? — паціскаюць плячыма. — Каб гэта так проста можна было падлічыць, а то не. Тут усё мы рабілі самі, тут толькі работа дзвюх пар рук. І вазьмі палічы? Стадола таксама.

— Кароўнік быў асновай да накіравання гаспадаркі ў каляіну спецыялізацыі. Вырашылі заняцца каровагадоўляй. Распачалі дакладна ад лістапада мінулага года. Мелі пяць кароў і цёлку. За год павялічылася да 7 кароў дойных і 8 яловак. Спецыялізацыя ў Валасюкоў — гадоўля малочна-мяснога быдла. Малако кантрактаванае. Носяць у малачарню ў сярэднім сто літраў у дзень.

— Бяда, даяркі няма як дастаць. Ужо чакаем больш як год, а чаргі і канца яшчэ не відаць. А пакуль іх выдаіш, то рукі так нацягнеш... Сто літраў нацюрыкай... — скардзіцца жонка.

Апрача малака рыхтуюць да продажу на мяса восем ялавіц. Хочуць у экстру. Умова — вага звыш чатырохсот кілаграмаў. Будзе гэта першая дастаўка са спецыялізацыі.

Валасюкі — людзі працавітыя. Нават найменшы кавалачак зямлі не ляжыць у іх адлогам. А нават больш гэтага. Абрабляюць не толькі свае дзевяць гектараў, але бяруць і ў арэнду. У землеапрацоўцы займаюцца пераважна вы-

Працяг на стар. 4



Гарадскія замалёўкі. Беласток, вул. Дзяржынскага.

Фота Я. Целушэцкага.

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## МАЙСТАР НА УСЕ РУК!

# ІВАН ЮРЧУК



Ужо ў Мокрым сказалі нам сяляне, што ў іх ваколіцы няма такіх таленавітых людзей, якія б дараўноўвалі Івану Юрчуку з вёскі Дзяціннае, што ў Боцькаўскай гміне.

— Ён патрапіць ўсё сам зрабіць, ды зробіць так, што і інжынеры так не патрапяць.

Калі Івану было 15 год, пайшоў ён у Боцькі абучацца кавальскаму рамяству. У каваля на працягу двух год (было гэта ў 1943-44 гадах) ён пазнаў усе таямніцы кавальскай прафесіі і пачаў сам на бацькоўскай сялібе ствараць кузню, а ад 1947 года ўжо самастойна выконваў кавальскія работы. Намагаўся абсталяваць сваю кузню ўсімі патрэбнымі прыладамі. Работы было поўна заўсёды. Ён выконваў яе добра і таму атрымаў майстэрскі дыплом у галіне кавальства.

Пачаў цікавіцца блізкай галіной — слёсарствам. Разбудоўваў і мадэрнізаваў сваю кузню. Стала яна пазней варштатам тэхнічных прац, звязаных з патрэбамі вёсак і мястэчак. Іван Юрчук пачаў рамантаваць сельскагаспадарчыя машыны, уключна з трактарамі і матацыкламі. Варштат яго ўзбагачаўся новымі машынамі і прыладамі. І такарка, і вяртарка, і спавачка, і прылады для гідраўлічных работ, і шмат іншага абсталявання было растаўлена ў яго майстэрні. Іван Юрчук падкоўваў коней, вастрыў лямешы, рамантаваў сельскагаспадарчыя машыны і ўзяўся за абсталёўванне ў калодзежах гідрантаў і водаправодаў у вясковыя хаты, а пазней і цэнтральнага ацяплення. А калі ўжо дзе рабіў цэнтральнае ацяпленне, дык сам будаваў печкі на кухнях. Справа ў тым, што у вясковых хатах, якія, як правіла, не маюць „падпіўнічэння“, печы для цэнтральнага ацяплення абсталёўваюцца ў кухонных печках, у якіх можна паліць і варыць на пліце.

Ужо больш як у 50 хатах абсталяваў Юрчук водаправод і цэнтральнае ацяпленне. На вёсках і ў мястэчках людзі пачалі масава мадэрнізаваць свае хаты. Найбольш у апошнім часе выконвае гэтыя работы ў Боцьках. Ды працуе ён не сам. Працуе разам са сваімі вучнямі. Цяпер іх трое. Іван Юрчук за абучэнне маладых кадраў на Дзень настаўніка 5 гадоў таму назад атрымаў узнагароду. Гідраўлічнай прафесіі навучыў ён ужо 12 чалавек.

А цяпер некалькі слоў аб Іване Юрчуку як канструктару. Сам ён зрабіў бетанярку, пад'ёмны кран, млынок для збожжа, трактар, да якога можна падчапляць сельскагаспадарчыя машыны і адначасова спераду знаходзіцца невялікі кузаў, які аўтаматычна паднімаецца і звальвае груз. Такі своеасаблівы самазвал на гаспадарцы вельмі прыдатны. Самазвал яго прадукцыі мае толькі фабрычныя калёсы. Усё астатняе з матэрыялу і частак, купленых на зломе.

Аб Іване Юрчуку неабходна сказаць шмат пахвальных слоў як аб гаспадару, які механізаваў большасць прац, патрабуючых многа часу. Яго хлявы маюць вентыляцыю. Каровы маюць свае паілкі. Кармілкі таксама зроблены даволі арыгінальна. А гной выцяжнымі аўтаматычнымі абсталяваннямі выцягваецца за будынак і ўкладваецца ў даволі высокую горбу. Растрасалку для гною Юрчук таксама ўдасканаліў. Клуня ў яго пабудавана таксама па-сучаснаму. Кроквы там не драўляныя, а жалезныя. На прасторным таку стаяць у яго сельскагаспадарчыя машыны, апрача таго, мае ён і легкавую машыну, і „Нысу“, і свой другі трактар.

У бацьку ўдаўся сын Валянцін. Разам яны зрабілі машыновую вінтаўніцу для водаправодных трубаў і аднафазавы электрычны рухавік. Сын цяпер служыць у войску. Як вернецца з арміі, будзе памагаць бацьку пры будове аграмаднага, па-сучаснаму абсталяванага дома. А пакуль што Юрчук Іван сам працуе пры яго будове. Апрача ўсяго сказанага, ён таксама добры пчаляр ды заўзяты паляўнічы.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**

---

пушчы ўвесь круглы год бегалі ў лапцях-пасталах, цяпер пераселі на трактары. На 160 гаспадарак у Богушах ёсць аж 40 трактараў, у большасці з поўным камплектам розных сельскагаспадарчых машын. Вядзецца тут вельмі інтэнсіўная, на высокім узроўні сельская гаспадарка, асабліва гадоўля. Прыкладам жа і ўзорам для ўсіх з'яўляецца **Казімір Яцкевіч,** у хлявах якога цяпер набірае вагі каля трохсот ладных кормнікаў! Але гэта зусім не абазначае, што ў Богушах жыццё плыве малочнай ракою ды ў шакаладных берагах. Дарога з вёскі на поле ў іх не прайсці ды не праехаць — грузнуць машыны, топяцца жывёла і людзі. Праводзячы меліярацыю, „спецы“ такі роў пракапалі, што цяпер для паўсяла паверхневая вада ўсе скляпы ды копцы з бульбаю і іншым залівае. І ці не брыдка гмінным уладам у Саколцы, што не дапамогуць перададвой вёсцы ліквідаваць гэтакія надакучлівыя дробязі?

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ЯШЧЭ ДВА КЛУБЫ

Як паведаміў нам дырэктар сакольскага аддзела прадпрыемства РСВ „Прэса-кніжка-рух“ — Рамуальд Мурмыла, у пачатку снежня гэтага года будзе перададзены ў карыстанне новы клуб „Рух“ у вёсцы Пакосна ў Сухавольскай гміне. Сяло знаходзіцца ў 10 кіламетрах ад Сухаволі і налічвае каля 400 жыхароў. Будзе гэта ўжо сёмы клуб прэсы і кніжкі ў гэтай гміне. Мае яна найбольш культурных цэнтраў. Шэсць клубаў „Рух“ мае Шудзялаўская гміна і займае другое месца па колькасці.

У пачатку 1979 года новы клуб прэсы і кніжкі будзе адкрыты ў Крынках. Прадбачваецца, што ў карыстанне будзе ён перададзены яшчэ да 20 лютага. Памяшканне для клуба адступіць мясцовая гарбарня.

### КАЛІ ЎЖО БУДЗЕ?

З такім пытаннем звярнуліся ў рэдакцыю „Нівы“ чытачы з вёскі Палічна, маючы на ўвазе перадачу ў карыстанне мясцовай святліцы пасля працяглага рамонту (цягнуўся ён некалькі гадоў). Яго рамонтам зацікавіўся начальнік Васіль Міхноўскі. Святліца будзе гатова ў другой палавіне студзеня 1979 года. Зараз ліквідуюцца недаробкі, дапушчаныя рамесніцкай спулдзельняй, якая выконвала рамонт. **(яц)**

# БУДЗЕ ГАНДЛЁВЫ ДОМ

18 лістапада гэтага года адбылося ўрачыстае ўмураванне вуглавога каменя пад пабудову спулдзельчага гандлёвага дома ў Заблудаве. Знайшлося для яго месца ў цэнтры мястэчка, побач мейска-гміннага ўпраўлення. Будзе гэта двухпавярховы будынак, будуе дом брыгада будаўніча-мантажнага аддзела ВЗСР „Самапомач хлопска“ пад кіраўніцтвам Станіслава Рашкоўскага. Будзе гэта першы такі вялікі гандлёвы дом у Беластоцкім ваяводстве. Пабудова яго з гатовых элементаў зойме паўтара года. Кошт інвестыцыі 10 мільёнаў злотых. У новым ГСаўскім гандлёвым доме кліентаў будзе абслугоўваць 18 прадаўшчыкоў.

Варта дадаць, што спамянутая пабудова з'яўляецца самай неабходнай у Заблудаве. Мястэчка дагэтуль не мела і не мае дзе развіваць гандаль. Заблудаў усё-такі лічыцца цэнтрам абслугоўвання для 14 800 жыхароў гэтай гміны, ды й у самым ім пражывае зараз 1592 чалавекі.

Тэкст і фота **Я. Целушэцкага**



*Старшыня ГСу ў Заблудаве Ян Жубрыцкі (злева) уручае да падпісання эрэкцыйны акт начальніку Яну Поляку.*

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

*ВЯСЕЛЬНАЯ*




*На дворэ колодясь і выдро —*
*дэсь тае Валюні ны выдно.*
*Як по воду послалі — вырнытэ,*
*до коморы сховалі — покажытэ!*
*Бо ее матёнка на дворэ,*
*нэхай подывітця на ее.*

*Вся ее родына з'їхала,*
*дывітце на еі — ныма ей тут!*
*— Мамусенько родна, вытаю!*
*Я тэбэ, родына, пытаю:*
*Я жыву тут добрэ, довольна,*
*будь ты, мамусенько, здорова!*

Ад Аляксандры Мартынюк, 1904 года нараджэння, вёска Баброўка гміны Мілейчыцы, запісаў улетку 1978 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.




# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XVIII
### Гісторыя напісання „Сымона-Музыкі“

У лістах і аўтабіяграфічных матэрыялах Коласа знаходзім нямала інфармацый, якія ілюструюць працэс стварэння паэмы. Сучасны беларускі крытык М. Мушынскі аб гісторыі напісання „Сымона-Музыкі“ сцвярджае наступнае: „У беларускай літаратуры, напэўна, не знойдзецца твора, які б меў такі багаты і разам з тым незвычайны шлях стварэння, як паэма „Сымон-Музыка“.

Да напісання паэмы прыступіў Колас ў часе знаходжання ў турме ў 1912 годзе. Ужо ў 1912 годзе пісьменнік намерваўся закончыць свой твор. У канцы сакавіка 1912 года Колас пісаў да рэдактара „Нашай нівы“ Уласава: „Увесь час тасціны ахвярую „Сымону-Музыку“, калі добра пойдзе праца, то з вамі першымі падзялюся навіною“.

Праз дзевяць месяцаў, у лістападзе, да таго ж Уласава Колас выяўляў незадаволенасць з прычыны замаруджаных тэмпаў працы над паэмай. „Сымон-Музыка“ ляжыць, бедны, чакае лепшых часоў, як напісаў восенню другую частку (напісана столькі, як і ў першай частцы), так яно і засталося. Адзін толькі раз браўся за яго тут, а болей не выпадала. Дрэнна“.

У 1918 годзе паэма выйшла з друку пад загалоўкам: Якуб Колас, Сымон-Музыка (казка жыцця). Выданне Вольная Беларусь. Мінск 1918 год.

Пасля рэвалюцыі пісьменнік прыступіў да перапрацоўкі паэмы. У чэрвені 1924 года Колас выехаў на лячэнне ў Кіславодск. Там намерваўся давесці паэму да канца. У адным з лістаў да жонкі паэт пісаў: „Нічога не раблю, ніяк не магу ўзяцца за работу. А працаваць тут можна было б. Думаю ўсё ж-такі закончыць „Сымона-Музыку“ і папрабую напісаць якое-небудзь апавяданне“.

У іншых лістах Колас характарызуе шырэй атмасферу, у якой заканчваў сваю паэму. Гаворыць ён аб кнігах, якія чытаў паралельна з працай над паэмай: „...Я нікуды не хаджу, нічога такога не раблю. Трохі пісаў учора і сёння, але так сабе, з лёганькага. Калі скончу „Сымона-Музыку“, то будзе добра... я тут толькі чытаю. Прачытаў тое-сёе з Джэка Лондана, прачытаў Фаўста, чытаю Калявалу“.

Колас у многіх лістах без энтузіязму адносіўся да прыроды Каўказа. На думку паэта, пейзажы Беларусі нічым не ўступалі прыродзе поўдня. З гэтага аднак нельга рабіць вывад, што Колас абыякава адносіўся да буйнай прыроды поўдня. Панарама Каўказа мусіла рабіць на яго вялікае ўражанне, раз ён, прыступаючы да заканчэння „Сымона-Музыкі“, напісаў у лісце да жонкі: „Раніца светлая, ясная. Толькі над Эльбрусам дымяцца белыя хмаркі, як дым кадзільны, і расплываюцца па небе, гусцеючы, збіваючыся ў клубкі. Вакольныя горы чуць-чуць засланіліся тонка-танюсенькаю сінню, як дзяўчаткі шаўковымі шарфамі каўказскае работы. Я падняўся пісаць, прыводжу ў парадак напісанае аб „Сымоне-Музыку“, каб ужо скончыць і пераглядзець спачатку.“

Канчаткова другую рэдакцыю паэмы Колас закончыў 8 ліпеня 1924 года. Лаканічная інфармацыя ў лісце да жонкі не перадае ўсёй складанасці, што спадарожнічала стварэнню паэмы, але добра характарызуе пісьменніка, якому чужой была крыклівасць і пафаснасць. „Учора я закончыў „Сымона-Музыку“ і, здаецца, закончыў не кепска“.

Другая рэдакцыя „Сымона-Музыкі“, зробленая ў 1918-1924 г.г., ніколі не была надрукавана. У часе падарожжа пісьменніка з Кіславодска ў Мінск чамадан, у якім знаходзіўся рукапіс, быў украдзены.

Пісьменнік зараз жа прыступіў да рэканструкцыі страчанага тэксту. У „Полымі“ № 3-4 за 1925 год з'явілася інфармацыя: „Якуб Колас аднаўляе страчаную ім у часе паездкі на Каўказ перапрацаваную паэму „Сымон-Музыка“. Да гэтага часу адноўлены тры часткі паэмы“.

Апошнім дакументам, звязаным з трэцяй рэдакцыяй паэмы, з'яўляецца ліст Коласа да жонкі ад 16 VI 1925 года: „Сымон-Музыка“ ўжо ў друкарні з пятніцы ляжыць. Колькі пралежыць там, сказаць трудна. Напэўна нядзелі са дзве. Ну што ж? Гультай мой Сымон не любіць борза за работу брацца“.

У 1925 годзе „Сымон-Музыка“ выйшаў у свет і ў хуткім часе заняў ганаровае месца не толькі ў творчасці Коласа, але і ва ўсёй беларускай літаратуры.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

## Фота па заказу — DRUPI



**Заказвалі** Аліна Юзвюк з Пасечнік Малых, Рэната Барыс з Беластока і Юрка Трачук з Любліна.

## Вер — не вер

Дарагі Астроне, прыснілася мне, што злавіла я двух зайцаў. Зайцы былі вялікія. Думаю, зарэжу я іх. Прывалакла я іх у хату і абодвум абрэзала галовы. Што гэта такое?

А маёй сяброўцы прысьнілася, што зайшла яна да мяне ў хату, а ў мяне многа кветак. І быў у хаце мужчына, які зламаў самую прыгожую кветку, расцвіўшую. А тады я ўзяла зламала другую, яшчэ не расцвіўшую.

У наступным сне мне прысьнілася, што я ўехала ў хату фураю з гноем. І ўжо з хаты назад не выехала.

Люба

Люба! Сны твае і тваёй сяброўкі супярэчлівыя, але ўсе пацвярджаюць адзін тэзіс: штосьці ў тваім жыцці здарыцца, будзе нейкая, здавалася б, добрая справа, якой, так сказаць, падрэжуць крылы.

У першым сне ты злавіла двух зайцаў, і гэта абазначала б добры выхад з нейкай складанай справы. Але ж ты абрэзала ім галовы! І зноў жа, у сне сяброўкі: нейкая радасць чакала б цябе, бо ёй прысьнілася, што ў тваёй хаце было шмат кветак, але самую вялікую кветку (радасць) забраў нейкі мужчына, а ты да яго далучылася, зламаўшы другую кветку.

Трэці сон як бы пацвярджаў два першыя: будзеш мець нейкую хісткую, няпэўную справу, пасля якой застануцца ў хаце адны бруды (ты ж уехала ў хату на фурманцы з гноем).

Астрон

## Кансультацыя юрыста

Пытанне: Пяць месяцаў пасля шлюбу Г. нарадзіла сына. Яе муж Т. сцвярджае, што гэта дзіця не яго. Ён адышоў ад жонкі, і праз паўтара года яны ўзялі развод. Нягледзячы на сцвярджэнне Т., што дзіця не яго, суд прысудзіў аліменты на дзіця. Ці ёсць такі закон, каб хто мусіў плаціць на ўтрыманне чужога дзіцяці?

АДКАЗ: Зразумела, што няма закону, каб хтось меў абавязак утрымоўваць чужое дзіця. Аднак у гэтым прыкладзе сітуацыя больш складаная. Па закону дзіця, якое нарадзілася ў часе шлюбнага жыцця, хоць бы муж і жонка жылі асобна, з'яўляецца шлюбным дзіцём. Што дзіця не паходзіць ад мужа — можа быць сцверджана ваяводскім судом у асобным сцвярджэнні. Калі дзіця нарадзілася раней 180 дзён пасля шлюбу, для суда з'яўляецца дастатковым заява мужа, што гэта дзіця не яго. Аднак, калі жонка дакажа, што яны і перад шлюбам утрымоўвалі палавыя адносіны, то муж мусіць даказаць, што непадабенствам з'яўляецца, каб ён быў бацькам. Гэткія самыя доказы ён абавязаны даставіць суду, каб запярэчыць сваё бацькоўства, калі, беручы шлюб, ён ведаў, што жонка цяжарная.

У нашым прыкладзе, паколькі не было судом сцверджана, што Т. не з'яўляецца бацькам дзіцяці, суд, які вырашыў справу разводу, абавязаны быў прысудзіць аліменты. Справу ўскладняе факт, што справу аб абвяржэнні бацькоўства можна падаць у суд на працягу шасці месяцаў ад нараджэння дзіцяці. У пазнейшым часе справу можа пачаць толькі пракурор. Толькі пасля сцвярджэння судом, што Т. не з'яўляецца бацькам дзіцяці, у асобнай справе мог бы ён патрабаваць змены рашэння суда, якім ён абавязаны плаціць аліменты.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, ужо крыху ахалануўшы ад свайго няшчасця, хачу падзяліцца з табой сваёй крыўдай, ды перасцерагчы маладых, такіх, як і я, наіўных дзяўчат. Я хадзіла з Андрушам больш года. Закаханая, здавалася самая шчаслівая ў свеце. Мы бачыліся штодзень, бо вучыліся ў адной школе. Але Андруша скончыў школу, а мне яшчэ астаўся год вучобы. І ўжо на канікулах ён у мяне не паказаўся. Я моцна перажывала, старалася яго ўбачыць у горадзе. І ўрэшце ўдалося мне гэта. Спаткаліся. Ну і пачалі ізноў хадзіць. Я была шчаслівая, але мой нарачоны сказаў, што мы ўжо столькі ходзім і маглі б дазволіць сабе і на больш... І я яму даверыла. І што? Ён увогуле больш не паказаўся. Потым даведалася, што ўжо выехаў з нашага горада. Колькі я тады перажыла, не змагу расказаць. Баялася цяжарнасці, але нікому аб гэтым не гаварыла. Нават мама нічога не ведала. Мучылася, была блізкая самагубства. Але, на шчасце, не зацяжарыла. Вось як верыць хлопцам!

Аня

Аня! Гэта праўда, што маладыя дзяўчаты мусяць быць асцярожнымі з хлопцамі. Бо якраз маладыя хлопцы часта зусім не кіруюцца пачуццямі, а толькі сексам. Каб здабыць дзяўчыну, ён часта прыкідваецца закаханым, ды дамагаецца ад яе доказу кахання. Дзяўчына часта згаджаецца, спадзеючыся, што гэта ўзмоцніць іх пачуцці. А яно наадварот — абрываецца раптоўна. Хлапец, які сапраўды кахае дзяўчыну, не будзе дамагацца нахальна ніякіх доказаў. Так што сцеражыцеся, дзяўчаты!

Сэрцайка

## Куток практычных ведаў




### РЫХТУЕМСЯ ДА СВЯТ



Знаю сем'і, якія не прызнаюць пірагоў. Але што рабіць, калі надыходзяць святы, а разам з імі з'язджаюцца і сходзяцца госці, сваякі?.. Мае знаёмыя, што не прызнаюць пірагоў, робяць тады самыя разнастайныя крэмы і жэле. І можа нават маюць рацыю. Большасць жа нашых гаспадыняў па традыцыі падрыхтоўвае на свята столькі страў, што на тлустыя і багатыя пірагі ўжо проста не застаецца месца. Жэле ці крэм аднак жа кожны з'есць з ахвотай і без ушчэрбу для страўніка. Дык, калі вырашыце пайсці следам некаторых маіх знаёмых і спрабуеце абыйсціся на свята без пірагоў, прапаную нештодзённы дэсерт, які складаецца з жэле і тварагу, у выніку чаго атрымаецца жэле „перакладанае".

Трэба купіць у магазіне жэле (галярэтку) розных смакаў і колераў (І пачку апельсіннага, вішнёвага ці абрыкосавага, 1 пачку агрэставага). На гэтае жэле дастаткова ўзяць 1 кубачак рэдкага тварагу (з магазіна), 2 жаўткі, 1 пачку ванільнага цукру і 4 лыжкі збітай смятанкі.

Падрыхтаваць асобна абедзве галярэткі і паставіць, каб яны застылі. У той час змяшаць ванільны цукар з тварагом і жаўткамі (а можна дадаць яшчэ і разынкі ці пасечаныя арэхі), збіць смятанку і паставіць яе ў халадзільнік. Кожную з застыўшых галярэтак асобна пасячы, пасля чаго класці ў шкляныя бакалы напераменна: зялёнае жэле, тварог, жэле іншага колеру і так да канца. Зверху палажыць лыжку збітай смятанкі. Дэсерт добра астудзіць.

Гаспадыня

## Этнаграфічнае закенца



*Хата з „карункамі" ў вёсцы Дарожкі ў Юхнавецкай гміне.*
*Фота Я. Целушэцкага.*




Адным словам, аперацыя з „жанішком" правалілася. Потым мы нават не шкадавалі, што так здарылася. Знайшлі другога „жанішка". Хоць не генерал, толькі маёр, але затое галоўны інжынер інжынернай часці і ведаў больш, чым яго начальнік генерал.

Маёр быў таксама ахвочы да шнапса і да жанчын. Хітруга, аднак, не пасяліўся ў хаце ўдавы — прыходзіў да яе днём. У гэты час на вуліцы шмат салдат, і ён спакойна вяртаецца ў штаб.

Тры дні мы сачылі за „сваім" інжынерам. Устанавілі, калі ён ідзе на спатканне, калі вяртаецца і ў якім стане.

Хата ўдавы стаяла на краі сяла. Дарожка сюды вяла праз невялікі гай. Тут мы і рашылі яго сустрэць.

Са мной было двое разведчыкаў: Дзмітрый Ільенка і Сямён Растопчын.

Напялілі мы на галовы капелюшы, з кішэняў плашчоў тырчаць рылы бутэлек. Міця разгарнуў акардэон. Уваходзім такой „п'янай" кампаніяй у вёску. Гарланім песні. Мірныя людзі кідаюцца ад нас убок: паліцаі нейкія гуляюць.

У гаі, на лужку разаслалі плашч (запасны, дарэчы), выставілі бутэлькі. „Гуляем" амаль ля самай сцежкі, на якой вось-вось з'явіцца маёр. Нямецкую пунктуальнасць мы ведалі.

Ніхто з нас, „гуляк", і кроплі не праглынуў. У разведчыкаў у тыле ворага быў увогуле „сухі закон". А тут яшчэ такое заданне! Гітлераўцы на кожным кроку. За вёскай стаіць танкавая часць. У кожнага з нас пад плашчам граната, зброя.

„Гуляем", значыць. Разыгрываем спектакль. А ў думках кожнага: скруціць бы хутчэй гада. Там у гарах чакае камандзір групы. Чакае звестак Цэнтр.

Аж вось на сцежцы з'яўляецца і „жаніх". Кругленькі, тоўсценькі. На сытым твары задавальненне. Зірнуў на нас маслянымі вочкамі і сам спыніўся. Мы да яго:

— Вып'ем, гер маёр, за кампанію...

Падняў пярэчліва далоні рук:

— Данке шон. Данке шон. Іх габэ кайнэ цайт... — Што па-нашаму азначае: „Дзякуй, дзякуй. Я не маю часу". А сам зыркае на бутэльку.

Тым часам, мы абступілі яго. Міця ў бок яму пісталет:

— Толькі пікні...

Сёмка сваімі рукамі, як кляшчамі, расшчапіў яму рот. Заціснулі мы інжынера ў свае абдымкі. Льём адборны пяршак у яго нутро.

У маёра ад такога пачастунку аж вочы лезуць на лоб. Глытае, аднак, куды дзенешся. А хлопцы яшчэ падтрунькваюць: „Пі, гер маёр. Ты любіш шнапс..."

Уліў я маёру паўлітра. Дабаўляць не трэба было. Нацягнулі мы яму капялюш на самыя вочы, накінулі плашч на яго маёрскі мундзір, абнялі як лепшага сябра і з песняй пад акардэон пайшлі далей „гуляць".

Ён-такі тады для нас, разведчыкаў, быў сапраўды дарагім. Рыбка не абыякая: член нацысцкай партыі з 1925 года. Нумар партыйнага білета (10340) даваў яму права на ўваход у канцылярыю самога Гітлера.

З песнямі пад акардэон вывелі мы яго з вёскі. На ўскраі лесу чакала фурманка. Паклалі свой „трафей" на сена. Едзем. На сэрцы так хораша. „Пагулялі" сапраўды добра.

На карэннях пачало трэсці воз. Лыпнуў вачыма палонны ды як зараве. Мы яму кляп у рот. Але асцярожненька, каб не задыхнуўся.

Раніцай, праспаўшыся, інжынер-маёр сядзеў за сталом у адведзенай яму зямлянцы і сумна глядзеў на пакладзеную перад ім карту Кракаўскага раёна. Галава, відаць, трашчала ад „пачастунку". Камандзір загадаў яму нанесці ўсе ўмацаванні гэтага раёна.

— І не спрабуйце маніць, — строга сказаў капітан. — Праверым — і...

Што было за тым „і", палонны разумеў,

— Я... Я... — хутка здаўся ён. Але перад тым як узяцца за работу, папрасіў даць яму пахмяліцца. Што ж, мож-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЗА РАДАСЦЬ ДЗЯЦЕЙ

Гарадскі камітэт Фронту адзінства народу ў Гайнаўцы стварыў 30-асабовы калектыў для працы сярод дзяцей у сувязі з Міжнародным годам дзіцяці — 1979. Старшынствуе гэтаму калектыву Ян Сапяжынскі — сакратар гарадскога камітэта партыі. Намеснікамі былі выбраны Уладзімір Мусько — намеснік начальніка горада і Аляксей Зін — старшыня гарадскога камітэта ФАН. Апрацавана багатая праграма святкавання Міжнароднага года дзіцяці ў горадзе Гайнаўка. Камітэт імкнецца расшырыць дапамогу і супрацоўніцтва ў розных выхаваўчых справах, хоча ўзбагаціць формы развіцця — фізічнага і духоўнага — наймалодшых, запэўніць ім радаснае дзяцінства.

Гайнаўскія прамысловыя прадпрыемствы зробяць плошчы для гульняў. Некаторым пакінутым дзецям будуць заложаны жыллёвыя кніжачкі з поўным грашовым укладам. Спулдзельня „Лес" зробіць сто шафак для лячнічай калоніі ТПД у горадзе. У жыллёвым квартале Гайнаўка-II будзе адкрыта прадшколле, якое будуецца пры дапамозе грамадскай працы ўсіх жыхароў. Упершыню ў Гайнаўцы жыллёвая спулдзельня разам з ЗОЗам і ТПД створыць сямейны дом. Дзецям з беднейшых сем'яў у час веснавых, летніх і зімовых канікул будзе арганізавана апека і адпачынак. Спецыялістычныя лекарскія парадні займуцца дзецьмі, якія маюць дрэнную вымову, ці калекі, ці непаўнаспраўныя разумова. Будзе прадоўжаны час працы школьных святліц, каб дзеці мелі арганізаваную апеку і ў пазнейшыя гадзіны.

Гайнаўскія дамы культуры расшыраць працу розных гурткоў для дзяцей і моладзі, аб'явяць мастацкі конкурс пад загалоўкам „Свет і Народная Польшча вачыма дзіцяці", будуць выстаўкі прац дзяцей, адбудуцца міжшкольныя спартыўныя матчы, дзеці будуць ездзіць на экскурсіі, глядзець фільмы і слухаць цікавыя гутаркі.

**Анна Вяслава Казак**

## ДЗЯКУЕМ ЗА ЎВАЖЛІВАСЦЬ!

Чытаючы „Ніву" з 12 лістапада г.г., нумар 46 у заметцы „Грамадскі кантроль", заўважыў я памылку — аўтара ці рэдакцыі — не ведаю. Напісана: „У ваяводстве дзейнічае 6273 органы грамадскага кантролю, у якіх працуе 33355 чалавек. У гміне Нараўка такіх органаў ёсць 417 з 235 членамі". Зробім падлік. Вядома, што ў камісіі не можа быць менш, як тры асобы. З 235 членаў можна б такім чынам арганізаваць найбольш 78 камісій. Ад 417 камісій адняць 78, атрымаем 339 камісій без членаў. Так быць не можа, значыць дзесьці ёсць памылка. Дзе?

**Вірскі**

**Ад рэд.** Вельмі лагічны вывад! Ёсць памылка — наша, рэдакцыйная. У аўтара было не 417 кантрольных органаў, а 47 кантрольных органаў. Просім прабачэння ў аўтара (А.З.) і ў чытачоў.

на было яго зразумець: столькі хапіў першака...

Пахмяліўся, павесялеў і пачаў лаяць на ўвесь свет і кляць свайго фюрэра, якому ў мюнхенскай піўнушцы гарланіў „хайль"...

— Я верыў Гітлеру, як богу, нават больш, — як не стагнаў інжынер. — А бог аказаўся д'яблам. Я нават рады, што вайна для мяне скончылася так нечакана. Цяпер я перакананы ў тым, што ўбачу сваю сям'ю, дзяцей...

Потым заўзята працаваў. Скроб лысіну, напружаючы памяць, і наносіў умацаванні за ўмацаваннем, па-нямецку дакладна. Наша радыстка Вольга на працягу некалькіх дзён шыфравала і перадавала ў Цэнтр радыёграмы, а там у сваю чаргу расшыфроўвалі і пераносілі звесткі на карту.

Зімняе наступленне нашых войск у Польшчы пацвердзіла, што звесткі нашы былі дакладнымі.

Як вядома, камандаванне Першага Украінскага фронту дало такую ацэнку групе „Голас": „Матэрыялы групы „Голас", якая дзейнічала ў надзвычай цяжкіх і складаных умовах, былі выключна дакладнымі і важнымі: усе разведданыя былі пацверджаны баямі.

**(Працяг будзе)**




## У САФРОНА

*Сабраліся адзін раз*
*Рыгор, Сідар, Карп, Панас*
*У дзядзькі Сафрона ў хаце*
*І пачалі выпіваці.*

*Пры нядзелі, як вядома,*
*Не сядзіць ніхто сам дома,*
*На двары то ж не выгода,*
*Бо дажджлівая пагода.*

*Дождж шуміць і цячэ з неба,*
*Перад ім хавацца трэба,*
*Інакш змокнеш, як варона,*
*Ну, й прыйшлі вось да Сафрона.*

*Добра вырвацца так з дому,*
*Выпіць сабе па аднаму,*
*Набраць лепшае ахвоты*
*На новы тыдзень работы.*

*І пры чарцы кожны можа*
*Ўспомніць прошласць сваю тожа,*
*Як калісь яны жылі,*
*Як падросткамі былі.*

*Сафроніха стол заслала,*
*Падала каўбас ды сала,*
*А праз нейкую хвіліну*
*Дала свежу бараніну.*

*І пайшлі кілішкі ўгору —*
*Дзядзькам прыбыло гумору,*
*Маладосць сваю зганулі,*
*Песню гучна зацягнулі.*

*А па шыбах дождж лапоча,*
*Адчыніць акно ён хоча,*
*Каб узяць мог песню вецер*
*І нясці яе па свеце.*

*Дзядзькі співаць закончылі,*
*Налілі і прымачылі.*
*Ну і весела ж у хаце —*
*Зноў гатовяцца співаці.*

*Перабіў усё Сафрон,*
*Штось хоча сказаці ён,*
*А паслухаць яго рада*
*Цэла гэтая грамада.*

*— Хлопцы, чом цяпер ніколі,*
*Ані ў вёсцы, ані ў полі,*
*Вясной, чы то на прадвесні*
*Не ўчуеш народнай песні?*

*„Куды пайшлі з вёскі*
*Вясёлы дзяўчаты,*
*Што вечарам пелі*
*На лаўцы ля хаты?*

*Калісьці, як у полі*
*Жыта дажыналі,*
*Усё ім балело,*
*А песні співалі."*

*— Я тых слоў з сябе не ўзяў,*
*У „Ніве" верш такі чытаў,*
*Напісаў Аркадзь Леўшук —*
*Наш зямляк із Ціванюк.*

*— О так, так, — сказаў Панас, —*
*Верш парушыў усіх нас,*
*Мая Параска, як чытала,*
*То тож цяжанька ўздыхала.*

*Тут паднёс вочы Рыгор,*
*Глянуў праз акно на двор,*
*Галавою пакрунуў,*
*Відна, штось тожа згануў.*

*І глядзіць пад хату Саўкі,*
*Дзе калісь стаялі лаўкі,*
*Адтуль, бывала, на прадвесні*
*Плылі ў даль дзявочы песні.*

*Вось Рыгор як бы прачнуўся,*
*Ад акна ён адвярнуўся,*
*Знак падаў усім рукою*
*Й заспяваў „Чудны месяц над ракою".*

*Тут жа зараз за Рыгорам*
*Падцягнулі усе хорам,*
*Ну й прыгожа, каб вы зналі,*
*Гэтыя дзядзькі співалі!*

**В. Данілюк**




...у вёсцы Вейкі, гміна Гарадок, у спажывецкай краме пасля 16 гадзіны заўсёды поўна п'яных. А гэта пераважна шафёры і трактарысты, якія потым, ведучы машыну па-п'янаму, разбіваюцца ды разбіваюць іншых. Ды й што з такога п'янага за работнік? Калі хто не верыць гэтай весткі, няхай прыедзе, пабачыць.

Ці дачакаем таго дня, калі людзі зразумеюць патрэбу адказнасці і дысцыпліны? **(с)**

## КАБ ПАШЫРАЦЬ КРУГАГЛЯД

Гмінная зборная школа ў Нараўцы многа ўвагі прысвячае выхаваўчай працы. У сувязі з 35 гадавінай Польскага войска адбыліся дзве цікавыя сустрэчы. Падпалкоўнік з Варшавы многа цікавага расказаў аб першым нашым касманаўце Міраславе Гермашэўскім. Маёр Мялешка з Беластока дзяліўся ўражаннямі аб пагранічнай службе. Трэба адзначыць, што моладзь Нараўкі штодзённа супрацоўнічае з пагранічнікамі. Тут існуе актыўная гарцэрская пагранічная служба.

Адбылася таксама сустрэча камендanta МО Міраслава Байко з вучнямі. Моладзь даведалася шмат аб працы людзей, якія трымаюць лад, парадак і бяспеку.

У Дзень настаўніка адбыўся цікавы апэль, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі ўлад гміны. Настаўніца Ядвіга Карпюк атрымала сярэбраны значок „Заслужаны для Беласточчыны", а надляснічы з Грушак Мечыслаў Гайдук значок „Прыяцель дзіцяці". Усе сустрэчы закончыліся мастацкай часткай. Добрыя гэта былі выхаваўчыя ўрокі.

**А. З.**

## ВЕЛЬМІ ЧЫСТАЕ МЯСТЭЧКА

Восень, і ў гэтую пару года цяжка ўтрымаць чысціню ў гарадах, на вуліцах і плошчах. Але з гэтым дасканала дае сабе раду мястэчка Супрасль. Вуліцы чыста замецены, а нават сабрана ўсё лісце ў парку. Не ўдалося б усяго гэтага так добра зрабіць аднаму прадпрыемству камунальнай гаспадаркі. Тут працуюць і дбаюць пра чысціню ўсе жыхары. У Супраслі нават пясчаныя вуліцы на ўскраінах чыста прыбраны і замецены.

Чысціню і парадак застаў я і на супрасльскай пошце. Толькі побач пошты заўважыў непарадак, менавіта па вуліцы Касцюшкі два суседнія дамы — нумары 46 і 48 — зараслі зеллем і бадыллём у агародчыках, аж вокан не відаць. Прычыны тут могуць быць розныя і што ж гэта значыць — два дамы на ўвесь горад? Толькі цікаўнасць такая — гэтыя домікі стаяць недалёка ад гміны і свецяць у вочы начальніку. А ці пасялковы камітэт не мог бы памагчы? Няхай бы ўвесь Супрасль выглядаў, як на паштоўцы!

**Э. Вайсковіч**

## УРАЧЫСТАСЦЬ СТАРЭЙШЫХ

Ужо шосты раз гарадское праўленне Польскага камітэта грамадскай дапамогі ў Гайнаўцы арганізуе Дні сеньёра. Формы працы тут вельмі розныя. Прафсаюзныя рады робяць сустрэчы з старэйшымі людзьмі, наведваюць хворых у дамах і ў бальніцах. Такая сустрэча ўжо адбылася ў кааператыве інвалідаў „Пастэмп", у Саюзе польскіх настаўнікаў, на Хімічнай.

Адбылася таксама сустрэча заслужаных старэйшых людзей горада з уладамі ў кавярні „Вжос". У гэтым годзе ў адзначэнне Дзён старэйшых уключыліся таксама пасялковыя камітэты горада Гайнаўкі, арганізуючы таксама розныя сустрэчы. Многа папрацаваў Польскі камітэт грамадскай дапамогі на чале з яго прэзасам Софіяй Ляпеўскай.

**Э. Вайсковіч**

## ВУЛІЦА Ў КАРЫЦІСКАХ...

...выглядае вельмі дрэнна. Усюды балота і гразь. Брук тут вузкі. Таму дарожныя ўлады патрабавалі ад сялян, каб кожны грамадскім спосабам насупраць свайго панадворка паміж плотам і маставой, дзе няма бруку, пракапаў роў аж да самых краевугольнікаў. Тыя краевугольнікі паложаны ўжо так, як будзе ісці новая, шырокая вуліца. У выкапаны роў прывязуць добры жвір, насыплюць роўна з цяперашняй маставой і тады наверх паложаць асфальт на ўсёй вуліцы. Якая ж прыгожая будзе тады вуліца — шырокая, светлая, сухая!

План нядрэнны. Сяляне сваё зрабілі, кожны насупраць сваёй сядзібы выкапаў роў — і гэта выйшла на іх бяду. Бо дарожныя ўлады заціхлі: і жвіру не вязуць, і асфальт не кладуць. А кожны селянін цяпер ламае сабе галаву, як выязджаць з панадворка на вуліцу, як уязджаць на панадворак, калі ў кожнага роў пракапаны блізка плоту. Парабілі людзі мосцікі і іншыя цуды, неяк жа трэба выязджаць, небам жа не паляціш. Вось што значыць не стрымаць слова, дадзенае людзям. І гэты факт мы кіруем да гміннай адміністрацыі — неадкладна ратуйце свой гонар!

**М. Панфілюк**

## ЯК ПРАЦАВАЦЬ У АСЯРОДДЗІ

Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народу ў Беластоку арганізаваў у лістападзе ў Супраслі курс для старшынь камісій індывідуальнай грамадскай прафілактыкі, якія працуюць пры пасялковых камітэтах у гарадах Беласточчыны. Курс прайшоў на высокім узроўні. Была сустрэча курсантаў з віцэ-ваяводам др. Гапунікам і сакратаром Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народу мгр Гжэськевічам. На заканчэнне курсу адбылася сустрэча, у якой прынялі ўдзел старшыня ваяводскага суда, ваяводскі віцэ-пракурор, прадстаўнік ваяводскіх органаў МО.

Мы даведаліся аб усіх турбуючых справах і выехалі з Супрасля задаволеныя, рашыўшы працаваць з яшчэ большай адданасцю ў сваім асяроддзі.

**Вірскі**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „НЕ МЕЛА БАБА КЛОПАТУ...", „Ніва" № 43/1182 ад 22 кастрычніка 1978 года.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKIE PRZEDSIĘBIORSTWO HANDLU WEWNĘTRZNEGO W BIAŁYMSTOKU.**

Odpowiadając na notatkę prasową w tygodniku dotyczącą naprawy pralki automatycznej typu PS 663 „S" bio przez Punkt Usługowy w Bielsku Podlaskim ul. Waryńskiego 2, a będącą własnością Ob. Saca Włodzimierza zam. w Bielsku, Wojewódzkie Przedsiębiorstwo Handlu Wewnętrznego w Białymstoku po zbadaniu sprawy wyjaśnia:

Naprawa w/w pralki, zgłoszona do naprawy w zakładzie w dniu 23.08 br została wykonana w dniu 11.09.1978 r. (usunięto uszkodzenie instalacji elektrycznej).

Przyczyną nieterminowej naprawy była duża ilość napraw w tym okresie. Od dnia 4 września monter, wykonujący naprawy automatów pralniczych, udał się na kilkudniowy urlop w celu załatwienia pilnych spraw osobistych, pod warunkiem, że, pomimo urlopu, wykona tę naprawę. Naprawa została wykonana 11 września.

Za waszym pośrednictwem przepraszamy Ob. Saca Włodzimierza za przeterminowaną naprawę. Druga naprawa natomiast była zgłoszona do kierownika rejonu WPHW w Bielsku Podlaskim. Monter punktu usługowego zgłosił się do Ob. Saca i stwierdził, iż jest uszkodzony termostat. Natomiast w punkcie brak było termostatów i wówczas zaproponowano wystawienie oświadczenia o niemożliwości wykonania naprawy, które upoważniłoby do wymiany sprzętu na nowy, wolny od wad, lub zwrotu gotówki, na co klient się nie zgodził. Wobec tego naprawę tę zgłoszono do Zakładu Obsługi Technicznej „Predom-Service" w Bielsku Podlaskim, który wykonuje z ramienia producenta naprawy pełnego asortymentu sprzętu produkowanego przez „Polar" we Wrocławiu. Jak nas poinformowano, dokonano wymiany termostatu i obecnie pralka jest pełnosprawna, w związku z czym sprawę uważamy za ostatecznie załatwioną.

Z-ca Dyrektora Naczelnego
d/s Usług i Produkcji
**Dyrektor Oddziału Usług**
**mgr inż. Jerzy Slezak**

**Да заметкі „МАГІЛЫ БЕЗ НАЗВЫ", „Ніва" № 6/1145 ад 5 лютага 1978 года.**

**Адказвае: URZĄD MIASTA I GMINY W SUPRAŚLU.**

W odpowiedzi na notatkę prasową zatytułowaną „Mogiły bez nazw" z 6/1145 numeru tygodnika „Niwa", Urząd Miasta i Gminy w Supraślu informuje, że ustawiona rzeźba drewniana na betonowym postumencie obok Technikum Mechanizacji Rolnictwa na skarpie nad brzegiem rzeki Supraśl, o której mowa w notatce, wykonana została w czynie społecznym przez uczniów Państwowego Liceum Sztuk Plastycznych i symbolizuje pamięć poległym w walce o wyzwolenie w czasie II wojny światowej.

Jednocześnie tutejszy Urząd serdecznie przeprasza Redakcję za przewlekłą odpowiedź na notatkę zamieszczoną w Waszym tygodniku.

**Naczelnik Miasta i Gminy**
**mgr inż. St. Kondracki**

**Да публікацыі „А ДЗЕ ЎЛАСНАЯ ІНІЦЫЯТЫВА?, „Ніва" № 50/1137 ад 11 снежня 1977 года.**

**Адказвае: ГМІННАЕ ЎПРАЎЛЕННЕ Ў ЮХНОЎЦЫ ДОЛЬНЫМ.**

W odpowiedzi na artykuł zamieszczony w tygodniku, dotyczący działalności kulturalnej we wsi Wojszki, Urząd Gminy w Juchnowcu informuje, że poczynione zostały kroki, zmierzające do poprawy zaistniałej tam sytuacji.

W b. roku nastąpiła zmiana na stanowisku kierownika Wiejskiego Domu Kultury. Funkcję tę podjął młody mieszkaniec wsi, Ob. Siergiejuk Jan, dotychczasowy działacz LZS. Sądzimy, że wpłynie to korzystnie na działalność placówki i, jako mieszkaniec tej wsi, zdoła on pobudzić inicjatywę społeczną, ożywić działalność organizacji społecznych.

Trudno w chwili obecnej, po kilku miesiącach zaledwie, ocenić pracę nowego kierownika Wiejskiego Domu Kultury. Zaniedbana dotychczas placówka wymaga ogromnego nakładu pracy, zwłaszcza jeśli chodzi o wygląd estetyczny. Należy również uzupełnić braki w wyposażeniu. Zakupiony został sprzęt fotograficzny, wkrótce zostanie zatrudniony instruktor, który będzie kierował pracą kółka fotograficznego.

Urząd Gminy w Juchnowcu dołoży wszelkich starań, aby prawidłowo ukierunkować działalność domu kultury w Wojszkach, ożywiając działalność organizacji społecznych i mobilizując mieszkańców wsi do aktywniejszego działania na rzecz rozwoju kultury w tej wsi.

**Naczelnik Gminy**
**Inż. Jerzy Tel**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

